


Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супраціў у Беларусі

**выпуск 25 (38)**

**29 чэрвеня 2021**

***Што дапамагае нам не здавацца? Нашая зямля і тое добрае, моцнае, што мы атрымалі у спадчыну. Салідарнасць і непахіснае імкненне будаваць лепшае жыццё тут, дома. Азіраешся – а за спінаю выпаленая глеба, але мы ратуем сваю Беларусь, захоўваючы ў сабе, па часцінцы, і аднойчы складзем іх, каб атрымалася цэлае.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Ксенія Тырсікава**, культурная менеджарка, вымушана з’ехала з Беларусі. Яе затрымалі 15 траўня 2021 ва ўласнай кватэры, яна адбыла 15-суткавы арышт, пасля чаго адзначала, што не адчувае сябе ў бяспецы.





**Уладзіславу Наважылаву**, вакалісту гурта Gods Tower, прысудзілі тры гады «хіміі» з накіраваннем у папраўчую установу за «абразу прадстаўніка ўлады».



**Алеся Дзянісава**, музыку, і ўсю яго сям’ю выклікалі на допыт у Следчы камітэт 22 чэрвеня ў якасці сведкаў па крымінальнай справе супраць Алеся Пушкіна і Паўла Мажэйкі за «рэабілітацыю нацызму».







**Вольга Калацкая**, перакладчыца, зноў падазраваная па 342 арт. Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадзкі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».

**20 чэрвеня ў Маладзечне ля камяня «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі» затрымалі шэсць чалавек. Пятра Дыка арыштавалі на 15 сутак, а Жанну Пілючонак – на 25 сутак.**





**Ілля Ясінскі, актор, быў вымушаны бегчы з Беларусі праз адкрытую супраць яго крымінальную справу.**

**Цэлую здымачную групу – 20 чалавек, – якая здымала дыпломную працу маладога рэжысёра, затрымалі ў Мінску 24 чэрвеня. У затрыманых цікавіліся, пра што здымаўся фільм, ці будзе ў ім бел-чырвона-белая сімволіка, хто фінансуе. Большую частку здымачнай групы ноччу адпусцілі.**



**«Цэнтр гарадскога жыцця» ў Гродна ліквідаваны 21 чэрвеня. Падставай для закрыцця стала карціна Алеся Пушкіна, які быў затрыманы 30 сакавіка па арт. 130 Крымінальнага кодэксу – Распальванне варожасці.**

**Галерэі Белгазпрамбанка вярнулі канфіскаваныя летась карціны.**



# 2. СІМВОЛІКА



**Пётр Кірылюк, 45-гадовы жыхар вёскі Быстрыца Кобрынскага раёна, пакараны годам «хіміі» за сарваны дзяржаўны сцяг.**



**Юрыю Шастко і Яўгену Грыбу прысудзілі штрафы па 100 базавых велічынь (2 900 рублёў з кожнага) за надпісы і выявы «пратэстнага зместу» (надпісы «Жыве Беларусь!», «3%», бел-чырвоныя палосы) на трох аўтобусных прыпынках.**



**19 чэрвеня супрацоўнікі міліцыі прыйшлі у кватэру сям'і Скаргі за налепку з «Пагоняй» у акне. Калі гаспадары не адчынілі дзверы, міліцыянты выкруцілі вочка ў дзвярах і пусцілі ў кватэру газ, прымусіўшы адчыніць дзверы, затрымаўшы ўсю сям’ю.**





**Уладзімір Дрындрожык, музыка, быў затрыманы 24 чэрвеня, меркавана, за налепку на машыне, асуджаны на 7 сутак адміністратыўнага арышту.**

# 3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ



**Аляксандру Васілевічу працягнулі тэрмін утрымання за кратамі. Ён перадаў паведамленне:**
***«Тут мала што ведаеш і разумееш, але ведаю дакладна, што сяброў у мяне і добрых людзей вакол значна больш, чым я думаў і мог чакаць».***



**Ліст ад Стасі Міронцавай:**
***«Посуд нам выдаюць, калі кормяць... Потым, канешне, забіраюць. Можна браць пустыя талеркі, чым я і займаюся. У нас заўсёды ў камеры толькі чаркі алюмініевыя (зэчкі). Ваду кіпяцім у іх. Яны вельмі награваюцца , і ў рукі ўзяць немагчыма. Але Таня робіць з СБ такія кружочкі чыхольчыкі, і з імі нармальна. А каву і гарбату п'ем праз трубачкі ад ручак, каб вусны не апякаць. Бо нават, калі кава ўжо падастыла, алюміній яшчэ гарачы».***







**Наталлю Хершэ ўжо месяц трымаюць у штрафным ізалятары.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**23 чэрвеня адбыўся анлайнавы паказ спектакля «Белы трус, чырвоны трус», які не можа быць паказаны афлайн і падчас прагляду якога на мінулым тыдні адбыліся затрыманні.**






**Арт у падтрымку франтмена Gods Tower Уладзіслава Наважылава**



**Вольга Якубоўская**
**прысвячэнне Кацярыне Барысевіч**



Анлайн-прэм'ера спектакля «Застацца нельга з'ехаць» Незалежнай тэатральнай кампаніі HomoCosmos. Усе ролі выконваюць былыя артысты Новага драматычнага тэатра, якія калектыўна звольніліся ў кастрычніку 2020 года праз парушэнне іх грамадзянскіх правоў на забастоўку.



Лявон Вольскі і Маргарыта Ляўчук запісалі новую версію песні «Палон», прысвечанай палітвязням.

Выціснуты з Беларусі Сучасны мастацкі тэатр запрацаваў у Кіеве.



# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Алена Анісім, Старшыня Таварыства беларускай мовы, каментуе праект МУС «Аб вызначэнні пералікаў арганізацый і іншых структур, нацысцкай сімволікі і атрыбутыкі»:**
***«Сцяг, безумоўна, можна забараніць, але з людской памяці і душы гэта не вытравіш. І з гісторыі не выкінеш. У любым выпадку прыйдзе час, калі гэты сцяг ізноў вернецца. Усё стане так, як і павінна быць».***

**Сяргей Будкін, кіраўнік BY_Culture:**
***«Гаворачы пра выпрацоўку новай культурнай палітыкі для Беларусі, мы не зьбіраемся нікому навязваць сваё бачаньне. Мы хочам наладзіць працэс абмеркаваньня новай культурнай палітыкі, прапануючы свой плян рэформаў, сваю «дарожную мапу».***





**Міла Котка, хросная маці беларускага стрыт-арту, заснавальніца і куратарка беларуска-бразільскага фестывалю вулічнай культуры Vulica Brasil:**
**«Імкнучыся ў будучыню, нам нельга забываць пра традыцыі беларускага народа. Страціўшы гістарычную памяць, забыўшыся пра традыцыі і адмовіўшыся ад беларускай мовы, мы страцім сувязь са сваёй зямлёй. А гэту сувязь губляць нельга ні ў якім разе, нават выпраўляючыся ў светлую касмічную будучыню».**

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




**Беларуская дыяспара ў Лос-Анджэлесе стварыла мурал, натхнёны працамі беларускіх мастачак і мастакоў, на знак павагі і любові да суайчынніц і суайчыннікаў.**



**У межах X Міжнароднага фестывалю «Кніжны Арсенал» адбыліся паэтычныя чытанні «Вершы свабоды з Беларусі», дзе выступілі сябры Беларускага ПЭНа: Уладзімір Лянкевіч, Альгерд Бахарэвіч, Юлія Цімафеева, Андрэй Хадановіч і Таццяна Нядбай.**

**Вольны хор выступіў у Берліне на ўрачыстым адкрыцці беларускай выставы «Жыве Беларусь».**



